

№1 (57)
Студзень 2014

# Рэчыцкі агляд

Незалежнае выданне

Выдаецца з 1999 г.

# Останки погибшего во время ВОВ летчика доставлены из России в Речицкий район для перезахоронения

Останки героически погибшего во время Великой Отечественной войны летчика Александра Титовца доставлены из Ленинградской области России в его родную деревню Заспа Речицкого района Гомельской области.

Церемония перезахоронения состоится сегодня. Об этом корреспонденту БелТА сообщила и.о. начальника отдела идеологической работы, культуры и по делам молодежи Речицкого райисполкома Светлана Кравченко.



Место гибели уроженца Речицкого района Александра Ивановича Титовца было обнаружено более года назад волонтерами-поисковиками у местечка Приютино Всеволожского района Ленинградской области. Именно здесь во время боевого вылета 28 сентября 1942 года и разбился самолет Александра Титовца, гвардии капитана, командира эскадрильи 11 гвардейского авиаполка Ленинградского фронта. Летчик погиб. Однако точное место захоронения оставалось неизвестным. Установить его удалось только после того, когда поисковики подняли на поверхность фрагменты самолета и боевые награды красноармейца.

Сверка данных подтвердила, что речь идет о 24-летнем Александре Титовце, который воевал в составе 7-го истребительного авиационного корпуса, а затем 2-го гвардейского истребительного авиационного корпуса ПВО Ленинградского фронта. Летчик имел 235 боевых вылетов, провел 27 воздушных боев и 26 штурмовок аэродромов и колонн бронетехники. За боевые заслуги он был удостоен орденов Красной Звезды и Красного Знамени.

Останки героя будут торжественно перезахоронены в братскую могилу на сельском кладбище в деревне Заспа Речицкого района. В церемонии примут участие родные погибшего воина, которые сейчас живут в разных регионах Беларуси и России, поисковики, представители органов власти, ветераны, молодые люди и местные жители.

Роман Карпов

# РАЗГУЛ ДЕМОКРАТИИ В РЕЧИЦЕ: на пикете «Говори правду» не было ни одного милиционера

**2 февраля на городском рынке Речицы прошел пикет по сбору подписей за кандидатов в депутаты, поддерживаемых гражданской кампанией «Говори правду».**

Речица выступает в качестве лидера среди районных центров Беларуси по количеству претендентов на депутатские мандаты. 43 активиста кампании идут в сельский, районный и областной советы. Основной упор сделан на Речицкий районный Совет депутатов, тогда как в сельский совет намерен попасть только один активист.




Речицкую команду претендентов возглавляет координатор «Говори правду» по Гомельской области Олег Шабетник, известный в городе предприниматель, председатель совета рынка. Помогает ему в организационных вопросах Елена Линкевич.

Рынок был выбран в качестве места сбора подписей не только потому, что в выходной день это самое людное место и Олег Шабетник располагает помещением, где можно попить горячего чая. Дело в том, что Речицкий исполком в записке о местах, запрещенных для сбора подписей, обозначил, среди прочего, стометровую зону вокруг рынка, но сам рынок не определил в качестве «запрещенного» места.

Пикет продолжался почти два часа. И за это время ни представители администрации рынка, ни члены избирательной комиссии, ни сотрудники райисполкома, ни милиционеры не проявили себя никоим образом: не позвонили кандидатам и не подошли к пикету. Хотя пикет был довольно громким: давать наказы возможным депутатам и ставить за них подписи призывали в мегафон.

По-видимому, в Речице на время предвыборной кампании «поселилась» настоящая демократия. Властям нужно, чтобы граждане пришли на избирательные участки. Не зря же они заставляют своих кандидатов ходить по квартирам и собирать подписи. Независимым кандидатам стоит участвовать в выборах даже ради этого: приятно осознавать, что из-за тебя какой-то чиновник вынужден идти с подписными листами к избирателям. А ему ведь так не хочется. Он же привык ничего не делать для избрания депутатом. В этот раз бюрократам пришлось поработать.

Роман Карпов

# Рэчыца: зарэгістраваны 76 ініцыятыўных груп па збору подпісаў, 39 з іх – ад кампаніі «Народны рэферэндум»




Назіральнік Валер Пуціцкі прысутнічаў на паседжанні Рэчыцкай раённай выбарчай камісіі, на якім прайшла рэгістрацыя ініцыятыўных груп па збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты. Па словах назіральнікаў, агулам былі зарэгістраваны 76 ініцыятыўных груп, 39 з якіх – за вылучэнцаў ад апазіцыі (кампаніі «Народны рэферэндум», у склад якой увайшлі грамадзянская кампанія «Гавары праўду!», Партыя БНФ і Рух «За свабоду!»). Патэнцыйныя кандыдаты прэтэндуюць на 40 месцаў «народных выбраннікаў» у Рэчыцкім раённым Савеце дэпутатаў.

Таксама ад кампаніі «Народны рэферэндум» па Рэчыцы вылучаюцца шляхам збору подпісаў ў абласны Савет дэпутатаў тры чалавекі. 76 патэнцыйных кандыдатаў – не канчатковая лічба, так як яшчэ адбудзецца вылучэнне ад працоўных калектываў і палітычных партый.

# Рэчыцкая раённая камісія: начальнікі – “прадстаўнікі грамадскасці”



Улады пры стварэнні тэрытарыяльных камісій строга прытрымліваюцца квоты – траціна сяброў камісіі павінна прадстаўляць грамадскасць. На паперы яно так і ёсць. Толькі пры праверцы аказваецца, што ўся тая «грамадскасць» займае высокія пасады на мясцовым узроўні.

26 снежня была ўтворана Рэчыцкая раённая камісія па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў. У яе склад увайшлі 13 чалавек, 7 з якіх працавалі ў раённай камісіі на мінулых выбарах у Палату прадстаўнікоў.

Па спісе камісіі – ніводнага начальніка, спрэс грамадскасць ды працоўныя калектывы. Пры дасканалым вывучэнні аказваецца, што грамадскасць тая – фікцыя. Напрыклад, зноў увайшла ў склад раённай камісіі намеснік дырэктара педагагічнага каледжу па ідэалогіі Ірына Абрамовіч. Але запісана яна ў камісіі як прадстаўнік ГА «Белая Русь». Дырэктар «ПМК-73» Аляксандр Вераб'ёў вылучаны ў камісію працоўным калектывам. Дырэктар мясцовай тэлекампаніі «Тэлевід» Яўген Дудкін таксама вылучаны працоўным калектывам. Такім жа чынам вылучаны ў камісію і дырэктар «райжылкамгасу» Віктар Севярынец, і дырэктар гасцінічнага комплексу «Рэчыцалюкс» Эдуард Ярашонак. Апошнія два начальнікі ўжо працавалі ў раённай камісіі, маюць досвед.

Начальнік аддзелу кадраў Рэчыцкай бальніцы Зінаіда Пузянкова працавала на мінулых выбарах у раённай камісіі «ад грамадзян», зараз жа трапіла ў камісію як прадстаўнік грамадскасці, «Беларускага саюза жанчын».

Цікавы факт: сябрам раённай камісіі з'яўляецца і былы дэпутат-«палатачнік», выбраны ў 2008 годзе, Алла Ісачэнка. Адбыўшы адзін тэрмін у ПП НС, вярнулася яна ў родную Рэчыцу, уладкавалася старшынёй раённай арганізацыі прафсаюзу АПК. У камісію раённую таксама патрапіла былы дэпутат ад прафсаюзу.

Не мог не пайсці ў раённую камісію і заўсёдны яе ўдзельнік Рыгор Якушаў, начальнік аддзелу арганізацыйна-кадравай працы райвыканкаму. Але вылучаны ён у камісію «ад грамадзян».

Такім чынам, у камісіі ўсе «свае людзі», свае начальнікі, толькі падпісаны як грамадскасць.

Ян Ильын

# Дамоклов меч

Грузовой автомобильный парк № 7 г. Речица. Каждое утро водители идут на работу. Но по дороге их подстерегают опасности. Можно сказать, что рабочий день водителей начинается с преодоления полосы препятствий. Проходя через ворота автомобильного парка, водители могут в один, не очень прекрасный момент, оказаться на гильотине.

Нас интересует один вопрос: кто же отвечает за столь опасный для жизни людей «козырёк»???

Человек, по всей вероятности, азартный. Ну, как же… Разве не азарт движет тем, кто всё это видит и не исправляет!? А это – наверняка, входит в его обязанности.

И гадает «игрок», как долго еще может продержаться эта глыба над головой?

А, может, посмеем предположить, это всё для того, чтобы спешащие на работу люди задумались о смысле бытия?

Увидев над своей головой висящую гильотину, водители осознают бренность всего сущего и призрачность благополучия.

Воистину – «Дамоклов меч»!

Олег Шабетник



# В Речице лоб в лоб столкнулись два Renault: один из водителей погиб



В результате ДТП водитель Renault Megane Scenic оказался зажатым в салоне автомобиля.

Авария произошла в 17.10 12 января в Речице. 55-летний водитель Renault Megane Scenic не справился с управлением, выехал на полосу встречного движения, где совершил столкновение с Renault Espace, - сообщили в УГАИ МВД Республики Беларусь.

В результате ДТП водитель Renault Megane Scenic оказался зажатым в салоне автомобиля. Работниками МЧС при помощи аварийно-спасательного оборудования мужчина был деблокирован, - рассказали спасатели.

Мужчина с телесными повреждениями был госпитализирован в ЦРБ г. Речицы, где в 19.55 скончался.

# В Речице у предпринимателя изъято 18 единиц пневматического оружия

Правонарушение было выявлено сотрудниками ОБЭП совместно с участковым инспектором при отработке территории района, сообщили в пресс-службе УВД Гомельского облисполкома.

Установлено, что в торговом павильоне «Фаворит» на ул. Советской райцентра 42-летний предприниматель незаконно реализовывал пневматическое оружие с единицей силы выброса пули до 3 джоулей. При этом сертификаты соответствия отсутствовали, передает TUT.BY.

По итогам проверки 18 единиц пневматического оружия изъяты. А в отношении владельца составлен административный протокол.




# Ферма посреди зимы осталась без котельной



3 февраля в деревне Защебье Речицкого района котельная молочно-товарной фермы пострадала от пожара.

О происшествии спасателям сообщил сторож. От огня пострадала крыша и потолок кирпичного здания на территории сельхозпредприятия «Новый путь — агро».

Как сообщает Гомельское ОУ МЧС, проверка соблюдения правил пожарной безопасности на предприятии проводилась в 2012 году. Тогда за различные нарушения был наказан руководитель «Новый путь — агро», но непосредственно в котельной все было в порядке.

Спасатели предполагают, что пожар произошел из-за короткого замыкания электропроводки.

Ян Ильин

# Лыжня непаразумення

“Рэчыцкая лыжня”, “Калядная лыжня”… Спаборніцтвы, якія з’яўляюцца ледзьве не візітоўкаю Рэчыцы. Аб іх ведаюць далёка за межамі нашага раёна, сюды едуць аматары лыжнага спорту з усяе краіны. Але і для рэчычан лыжная траса каля Наварэчыцкага мікрараёна з’яўляецца аб’ектам незаменным. Ці ж можа сёння нейкі іншы від спорту замяніць узімку лыжы? Наўрад! Але, як аказваецца, існаванне гэтага спартыўнага аб’екта сутыкаецца з нейкімі недарэчнымі праблемамі.

Ствараецца лыжная траса ў лесе спартыўнымі энтузіястамі. І шчыруюць яны над яе стварэннем насамрэч заўзята. Яно і зразумела – найперш жа для сябе! Бо апантаных лыжамі хлопцаў можна сустрэць на трасе ў любы дзень. Але ж і іншыя аматары здаровага ладу жыцця альбо проста прыхільнікі актыўнага адпачынку на свежым зімовым паветры карыстаюцца менавіта гэтай трасай. Дакладней – дзвюмя трасамі, бо з аднаго старту на стадыёне спорткомплексу “Надзея” яна разыходзіцца ўжо ў лесе на два кругі: адзін працягласцю ў тры кіламетры, другі – у пяць. І абодва гэтыя кругі ствараюць аматары лыжнага спорту, якія самі ўсё ж аддаюць перавагу даўжэйшай дыстанцыі.

Старшыня Федэрацыі лыжнікаў-аматараў Беларусі рэчычанін Андрэй Буркоўскі ды вядомы лыжнік-аматар Мікола Свішч звярнуліся да журналістаў яшчэ падчас першага “прышэсця” зімы. Тады яны акурат скончылі ўладкоўванне лыжнай трасы ды пару разоў паспелі па ёй праехацца. А ў адзін з сонечных дзянькоў ўбачылі сваё стварэнне парэзаным вялізнымі слядамі ад нейкага красовера. Пры гэтым найбольш пацярпелі самыя небяспечныя адрэзкі трасы – пясчаныя спускі ды ўздымы на пагорках. Але самае дзіўнае, што той джып прасунуўся нават па тых участках лыжні, якія пракладзеныя не па дарогах, а проста між дрэў унутры масіву. Прызнаюся шчыра, калі і я трапіў на лыжню, то і сам не мог стрымаць крыўды і абурэння. Навошта?

Праз колькі дзён яшчэ адзін аматар лыж нарваўся на лыжні на УАЗ, якім кіраваў… ляснік. Адбылася даволі жарсная спрэчка, падчас якой лыжнік даводзіў, што лесніку не варта было б патруляваць лес менавіта па лыжнай трасе, пажадана абраць нейкі іншы маршрут, а той у сваю чаргу даказваў, што ён абавязаны ездзіць менавіта па лыжнай трасе.

Потым падчас бліжэйшай адлігі некалькі аматараў-энтузіястаў выйшлі з граблямі на тую трасу і амаль цэлы дзень заграбалі каляіны, што ўтварыліся ад таго джыпа. Але адліга крыху зацягнулася, ды надзённасць тэмы некалькі мінула. Шчыра кажучы, боязна было яе ўзнімаць, каб зусім не спужаць зіму. Зараз сіноптыкі паабяцалі, што снег гэтаю зімою ўсё ж будзе, і маразы яшчэ сябе пакажуць, то бок – варта папярэдзіць новыя непаразуменні розных інстанцый ды іх шэраговых супрацоўнікаў на той лыжні.

Як гэта ні гумарыстычна гучыць, але той ляснік, якога “злавілі” лыжнікі на сваёй трасе – гэта зусім “не той” ляснік! Дакладней – ён ляснік, але абход ягоны зусім у іншым лясніцтве, і да тэрыторыі, дзе праходзіць лыжня, ён не мае аніякага дачынення, адпаведна, тое, што ён там рабіў – нельга назваць патруляваннем. Шчыра кажучы, гэта больш падобна на некую дробную маладушную шкадлівасць. Ды й леснікам, то бок – дзяржаўным чалавекам, які выконвае службовыя абавязкі, ён у дадзеным выпадку не з’яўляўся. Ужо не ведаю, чым гэтаму чалавеку не дагадзілі лыжнікі, але ж калі туды здолеў бесперашкодна патрапіць гэты спадар, то не выключана, што пашкодзіць спартыўны аб’ект знарок альбо не, можа хто заўгодна. Ці ж можна абараніць рэчыцкую лыжню хаця б на той невялікі прамежак часу, колькі ёсць у клімаце сёняшняй Беларусі якой-ніякой зімы?

Вядома ж, цяжка ўявіць сабе больш падыходзячую мясцовасць для пракладкі лыжнае трасы, ніж лясныя масівы. Таму нядзіўна, што менавіта ў лясах яны і знаходзяцца. Калісьці асноўная лыжная траса праходзіла на ўзбярэжжы Ведрыча. Але ў апошнія гады яе вырашана было ўладкаваць наўпрост за стадыёнам СК “Надзея”, каб людзі, узяўшы ў наём лыжы ды стаўшы на старт на стадыёне, маглі адразу трапіць на трасу ды потым зноў вярнуцца ў горад. На выездзе са стадыёна зрабілі браму, якая падчас катанняў адчыняецца, супрацоўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму дапамаглі энтузіястам давесці да ладу трасу. Сапраўды – так зручней ды, падаецца, рацыянальней. Аднак ад лесу, напэўна, у гэтай справе нікуды не падзенешся. Таму трэба нейкім чынам забяспечыць цікавасці ляснон гаспадаркі ды аматараў лыжнага спорту.

Прычым варта зазначыць, што гэта як раз той выпадак, калі раён сам можа ўсталяваць для сябе правілы гульні. Лясны Кодэкс Рэспублікі Беларусь у артыкуле 41 прадугледжвае, што ўчасткі ляснога фонду для выкарыстання ў культурна-аздараўленчых, турыстычных, рэкрэацыйных і спартыўных мэтах прадастаўляюцца паводле рашэння мясцовых органаў улады, пры гэтым у 62 артыкуле гэтага ж Кодэкса гаворыцца, што правілы карыстання ўчасткамі ляснога фонду для ажыццяўлення лесакарыстання ў гэтых мэтах таксама ўстанаўліваюцца мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі па ўзгадненні з юрыдычнымі асобамі, якія вядуць лясную гаспадарку. У нашым раёне, на жаль, такія правілы пакуль не ўстаноўленыя. Хаця ўчасткамі лясоў карыстаюцца не толькі лыжнікі, але туды едуць і для правядзення розных турыстычных злётаў, спаборніцтваў альпіністаў ды іншых спартыўных, культурных ды рэкрэацыйных мерапрыемстваў.

Як адзначыў спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму

Заканчэнне на стар.8

# Ульяне Захаранцы - 90 гадоў. Зь іх 15 - бязь Юры

6 лютага Ўльяне Рыгораўне Захаранцы, маці зьніклага экс-міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі, спаўняецца 90 гадоў.

Грамадзкія актывісты з Гомеля, Менска ды іншых месцаў сьпяшаюцца сёньня ў мястэчка Васілевічы, што пад Рэчыцай, каб павіншаваць Ульяну Рыгораўну зь юбілеем і пакланіцца ёй за выдатнага сына, грамадзяніна й сапраўднага патрыёта Беларусі.

Апазыцыйны генэрал Захаранка зьнік у Менску вечарам 7 траўня 1999 году. Не дайшоў да свайго дома на вуліцы Магілёўскай нейкую сотню мэтраў. Невядомыя схапілі яго, запіхнулі ў легкавік — і з таго часу ні сям'я былога міністра, ні маці, ні грамадзкасьць нічога пэўнага ня ведаюць пра ягоны лёс.

Пракуратура, міліцыя, а апошнім часам і Сьледчы камітэт шлюць маці адпіскі. Іх ужо каля чатырох дзесяткаў: маўляў, дасьледаваньне справы № 110352 па факту зьнікненьня сына працягнута. І так амаль пятнаццаць гадоў — з тых дзевяноста, што пражыла на белым сьвеце Ўльяна Захаранка.

Напярэдадні юбілею Ўльяна Рыгораўна выпісалася са шпіталю: ціск і стэнакардыя мучаць самотную жанчыну. Неяк яна расказвала Радыё Свабода пра свае будні:

«Я начамі наагул ня сплю, я не магу спаць: яны ў мяне ў вачах. І старэйшы сын-падводнік памёр — той у вачах. А праз год і Юру забралі. Хіба ж я магу гэта вытрымаць? І мужык памёр. Я нарадзілася 6 лютага. Валодзя памёр 7, Мікалай — 9 лютага. І вось усе гэтыя дні да дзясятага — яны ў мяне такія жалобныя! Я калі адна ў хаце, я толькі й плачу. Ноччу ня сплю, хаджу, сьвятло запалю ва ўсім доме. Колькі пакояў, столькі й лямпачак — і гарыць усю ноч». Найчасьцей ноччу




прыходзіць да жанчыны працяглы і пякучы боль. Лекаў хапае хіба на гадзіну-другую, ня больш:

«Вось гэтыя ўсе лекі я выпіваю, калі кладуся спаць. Пройдзе гадзіна — і ціск у мяне будзе 200 зь лішкам. Раз ужо 200, то тут, хочаш ці ня хочаш, а трэба выклікаць хуткую дапамогу. Пачынаецца прыступ стэнакардыі. Гэта будзе плячо левае гарэць, сэрца гарэць. Нават зрок губляю. І адна ў хаце». Спраўляцца з побытавымі справамі Ўльяне Рыгораўне дапамагаюць сацыяльная працаўніца і пляменьніца Люба.

Тупаючы па хаце, самотная кабета прыслухоўваецца да тэлефона, які стаіць на покуці пад абразком. Толькі тэлефон і думкі перасягаюць бесьперашкодна адлегласьць і межы.

Асабліва Ўльяна Рыгораўна чакае тэлефанаваньняў зь Нямеччыны, куды эміґравала сынава жонка Вольга зь дзьвюма дачушкамі — Аленай і Юлькай. Дзяўчаты ўжо маюць сваіх дзяцей — Кірылу і Ўладзіка. Гэта ўнукі бясьсьледна зьніклага сына Юры і яе, Ульяны Рыгораўны, праўнукі.

Жанчына маркоціцца, што пакуль ня бачыла праўнукаў, толькі на фотаздымках. Нават Кірылку, якога, уцякаючы за мяжу, сям'я сына вывезла немаўляткам.

Іншым разам Ульяна Рыгораўна дзіву даецца, якія выкрунтасы выкідвае лёс. Яна, ваеннае дзяўчо-выгнаньніца з Украіны, і такі ж выгнаньнік, Коля Захаранка зь Беларусі, сустрэліся пры канцы вайны ў вызваленым амэрыканцамі нямецкім горадзе Кёльне, каб неўзабаве вярнуцца на радзіму, пабрацца шлюбам, нарадзіць і вырасьціць двух сыноў. А зараз дочкі аднаго зь іх разам з маці і ўжо сваімі дзецьмі знайшлі прытулак у той жа Нямеччыне, зь якой у 1945 годзе так імкнуліся дадому Ўльяна і Мікалай. Ульяна Захаранка ведае, што сёньня ў яе хаце абавязкова раздасца тэлефонны званок зь Нямеччыны, і яна пачуе родныя галасы, у якіх не-не ды й праб'юцца ноткі голасу зьніклага сына.

Віншуем і мы Вас, Ульяна Рыгораўна, зь юбілеем! Зычым нармальнага ціску і сардэчнага рытму. Не губляем спадзеву, што неўзабаве ўсе мы будзем ведаць усю праўду пра Вашага выдатнага сына Юрыя Захаранку — Вашага сына і ўсёй нашай Беларусі.

Аліна Пырх

# У Гомелі студэнт з Рэчыцы ўпершыню абараніў дыплом інжынера па-беларуску



Андрэй Грабянчук прадставіў сучасную сістэму кіравання газавай блокавай гарэлкі для катлаагрэгата.

Упершыню за саракапяцігадовую гісторыю Гомельскага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта імя П. Сухога адбылася абарона дыпломнага праекта, цалкам распрацаванага на беларускай мове.

Студэнт завочнай скарочанай формы навучання спецыяльнасці «Прамысловая электроніка» Андрэй Грабянчук у атачэнні чарцяжоў, выкананых на роднай мове, цалкам па-беларуску прадставіў перад камісіяй распрацаваную сучасную сістэму кіравання газавай блокавай гарэлкі для катлаагрэгата і прадэманстраваў яе работу на рэальнай праграмна-апаратнай мадэлі.

Андрэй, які працуе на пасадзе слесара кантрольна-вымяральных прыладаў ААТ «Рэчыцкі метызны завод», прызнаецца, што яму прыемна размаўляць на роднай мове, але, на жаль, не заўсёды ён мае такую магчымасць:

– Увогуле даволі мала тых, хто размаўляе па-беларуску, – дзеліцца Андрэй – Прынамсі, у мяне такое жаданне існавала ўжо даўно.




Ва ўмовах невытлумачальна рэдкага ўжывання роднай мовы на афіцыйным узроўні і ў сродках масавай інфармацыі нашай краіны прыходзілася не аднойчы звяртацца да слоўнікаў, да літаратурных твораў, каб удасканальваць свае веды і размоўны досвед.



1.36.04.02

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

да дыпломнага праекта

Распрацаваў студэнт гр. ЗПЭ-51с Грабянчук А.У.

Кіраўнік праекта дацэнт, к.т.н. Крышнёў Ю. В.

Кансультант па эканамічнай частцы Котава С.М.

Кансультант па ахове працы і тэхніцы бяспекі Мурашка С.А.

Нормакантроль

На шчасце, у свой час на працы я пазнаёміўся з чалавекам, які меў падобную цікавасць. Паміж сабою мы размаўлялі па-беларуску. І таму пазней мне вельмі прыемна было сустрэць аднадумцаў і ў нашым ўніверсітэце. Прапанаваў Андрэю абараняць дыплом на беларускай мове яго кіраўнік – загадчык кафедры Юрый Крышнёў, які размаўляе ўжо доўгі час толькі на роднай мове і па сваёй уласнай ініцыятыве выкладае на ёй тэхнічныя дысцыпліны студэнтам. Менавіта ён дапамог Андрэю і ў правільнай трактоўцы часткі адмысловай тэрміналогіі дыпломнага праекту. У некаторых выпадках ім прыходзілася разам звяртацца да рэдкіх тэхнічных слоўнікаў адмысловых тэрмінаў аўтаматыкі і электронікі, з той прычыны, што ў звычайных слоўніках адпаведныя вузкаспецыялізаваныя тэхнічныя тэрміны адсутнічалі або даваліся ў спрошчаным выглядзе.

І ў заключэнні трэба дадаць, што беларускамоўнаму студэнту ўсе без выключэння ўдзельнікі камісіі паставілі адзнаку «10», што бывае даволі рэдка.

Юлія Рак

# Лыжня непаразумення

Заканчэнне, пачатак на стар.5

райвыканкама Аляксандр Свіцянкоў, зараз у нас маецца рашэнне мясцовай улады, у якім гаворыцца пра падрыхтоўку спартыўных аб’ектаў да зімы. Фігуруе там і пункт пра ўладкаванне лыжні. І, дарэчы, ёсць словы пра тое, што дапамогу ў гэтым уладкаванні павінен аказаць і лясгас. Але ж нейкай адказнасці за захаванасць спартыўнага аб’екта ад пашкоджання ні лясгас, ні нейкая іншая структура не нясуць. Хаця ў аналагічным дакуменце, прынятым некалькі гадоў таму ў дачыненні лыжні, што існавала на ведрыцкім узбярэжжы, на работнікаў лясной гаспадаркі быў ускладзены абавязак забяспечыць захаванасць лыжні ад пашкоджання транспартам. Я ў тыя часы працаваў ляснічым Рэчыцкага лясніцтва, і мае падначаленыя ўладкоўвалі на выездах на лыжную трасу агароджы ў выглядзе шлагбаумаў ды сачылі за іх захаванасцю. Цяпер жа нават зробленыя добраахвотнікамі нейкія саматужныя перашкоды на выездах на новую трасу знішчаюцца самімі леснікамі, хоць, і не ў межах выканання імі сваіх службовых абавязкаў.

Маючы на ўвазе тое, што лыжная траса ў зімовы перыяд мае выключна важнае значэнне для ўсяго насельніцтва раёна, падаецца, што ёсць падставы на разуменне з боку работнікаў лясной гаспадаркі неабходнасці падтрымання яе ў належным стане. І адна з умоў такога падтрымання – недапушчэнне руху па ёй транспартных сродкаў. Паводле слоў Аляксандра Свіцянкова, такое разуменне, па меншай меры ў кіраўніцтва лясгаса, ёсць. Андрэй Каліценя, які паабяцаў, што ў выпадку звароту куратараў раённага спорту лясгас усяляк пасадзейнічае нармальнаму функцыянаванню спартыўных аб’ектаў на сваёй тэрыторыі. Хацелася б, каб такое разуменне з’явілася і ў тых, хто непасрэдна адказвае за гэты ўчастак лесу.

Пакуль жа літаральна некалькі дзён таму на трасу зноў выехаў нейкі трактар, зламаўшы зробленую лыжнікамі перашкоду з некалькіх укапаных у зямлю здранцвелых паленняў. Усё ж, магчыма, калі б там стаяў нейкі больш-менш сапраўдны шлагбаум, а лепш бы яшчэ й папераджальны аншлаг аб забароне праезду, гэта неяк стрымала б трактарыста.

Увогуле падобныя аб’екты усё ж павінны мець нейкія юрыдычныя падставы свайго існавання. Зараз яны хутчэй трымаюцца на энтузіязме сваіх стваральнікаў. Калі ўжо закон дае правы распрацаваць на месцы – непасрэдна ў раёне – правілы карыстання ўчасткамі лесу для падобных мэтаў, то ці не настаў час выканаць гэта? Усё ж падобныя правілы зрабілі б і дзейнасць лясгасаў па кантролю за выкананнем прыродаахоўнага заканадаўства падчас правядзення ў лясах нейкіх мерапрыемстваў больш празрыстай, і самі арганізатары дакладна ведалі б, як кажуць, што можна, а што не і хто за што адказвае.

Андрэй Мядзведзеў

# Апошняя старонка

**Калі парушаюцца вашыя правы і вам патрэбная бясплатная юрыдычная дапамога, праваабаронцы заўсёды дапамогуць вам!**

**Звяртайцеся па тэлефонах:**

***Валерый Пуціцкі***

**тэл.: 8 029 3517978**

***Мікалай Пытлеў***

**тэл.: 8 029 3048239**




## Палітычны анекдот

Кіеў, размова па тэлефоне:

— Сыну, ты ў шапцы?

— Мама, не турбуйся: у шапцы, у касцы і з працівагазам!




*“Рэчыцкі агляд” №1(57)*
*Галоўны рэдактар - **Валерый Пуціцкі***
*Наклад 299 экз. надрукаваны на ксераксе*
*Распаўсюджваецца бясплатна*

**www.rechyca.org**